## ШТО НОВАГА?

### ЗАГАДКА АГАТЫ КРЫСЦІ

Ва ўсіх раманах англійскай пісьменніцы Агаты Крысці чытачу рана ці позна даюцца адгадкі самых заблытаных тайнаў і злачынстваў. Але ў жыцці самой пісьменніцы да тэтага часу застаецца няясным і інтрыгуючым адзін эпізод. У снежні 1926 года Агата Крысці, ужо тады вядомая пісьменніца, нікога не папярэдзіўшы, знікла з дому. Да пошукаў была прыцягнута паліцыя. Толькі праз адзінаццаць дзён прапаўшая была знойдзена ў маленькім пенсіянаце на адным з ціхіх марскіх курортаў. Яна жыла там пад выдуманым імем. Аб прычынах свайго знікнення Крысці так нікому і не сказала.

Пісьменніца Кэтлін Тынэн паклала гэту гісторыю ў аснову біяграфічнага рамана „Агата". У снежні павінны пачацца здымкі аднайменнага фільма. Але вось ці пачнуцца? Справа ў тым, што дачка Агаты Крысці ўзбудзіла іск супраць аўтара рамана і прадзюсера фільма, заявіўшы, што яны не маюць права выкарыстоўваць імя нябожчыцы з мэтай нажывы без згоды наследнікаў. Працэс па гэтай справе пачаўся ў канцы верасня.

### У ГЭТЫМ ТЫДНІ

**180 гадоў назад**

24 XII 1798 нар. Адам Міцкевіч.

**115 гадоў назад**

24 XII 1863 пам. Уільям Тэкерэй, англійскі пісьменнік.

**85 гадоў назад**

26 XII 1893 нар. Я. Цікоцкі, беларускі савецкі кампазітар, народны артыст СССР, адзін з заснавальнікаў прафесійнай музычнай творчасці ў БССР.

**60 гадоў назад**

27 XII 1918 выбухнула Вялікапольскае паўстанне.

30 XII 1918 адкрыўся I з'езд Камуністычнай партыі Беларусі.

1.I.1919 Часовы рабоча-сялянскі ўрад Беларусі абнародаваў маніфест, які абвяшчаў Беларусь суверэннай Савецкай Рэспублікі і дэкляраваў поўнае вызваленне беларускага народа ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту.

**50 гадоў назад**

1 I 1929 была адкрыта Акадэмія навук БССР.

**35 гадоў назад**

1 I 1944 у Варшаве па ініцыятыве ППР была створана Краёвая Рада Нарадовая (КРН). Вызначыла яна палітычныя і сацыяльна-эканамічныя асновы народнай Польшчы.

**25 гадоў назад**

27 XII 1953 пам. Юльян Тувім, польскі паэт.

**20 гадоў назад**

2 I 1959 — пралёт Месяца аўтаматычнай міжпланетнай станцыі „Месяц-I". Першы штучны спадарожнік сонца. (СССР).

**15 гадоў назад**

25 XII 1963 пам. Марцыянна Фарнальская, дзеяч польскага рабочага руху, маці Малгажаты Фарнальскай.

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 28 zł. 80 gr. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 2556. Nakład 7.800 egz. N-4





*У дзіцячым садзе ў вёсцы Лукаўляны (калгас „Авангард") Гродзенскага раёна.*
*Фота А. Перахода.*

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### БУДУЮЦЦА КОМПЛЕКСЫ

Будаўніцтва буйных сельскагаспадарчых вытворчых комплексаў разгорнута ў Барысаўскім раёне.

Заканчваецца будаўніцтва птушкафабрыкі ў саўгасе „Вяляцічы" на паўмільёна качак у год. У саўгасе „Гвардыя" хутка будзе здадзена ў эксплуатацыю першая чарга качкафабрыкі. Будаўнікі пачалі ўзводзіць цяплічны камбінат закрытага грунту ў саўгасе „Стара-Барысаў", дзе круглы год будзе вырошчвацца гародніна.

### ДЛЯ ЮНЫХ МУЗЫКАНТАЎ

У вёсцы Сцеркава Бердаўскага сельскага Савета адкрыўся філіял Лідскай музычнай школы.

Для навучання дзяцей калгаснікаў музыцы выдзелена сем спецыяльна абсталяваных пакояў. Заняткі праводзяць выкладчыкі, якія закончылі Гродзенскае музычнае вучылішча — Зінаіда Парфенчык і Ганна Касяк.

Пакуль навучэнцы спецыялізуюцца па класу баяна і акардэона. У будучым мяркуецца таксама навучаць дзяцей ігры на піяніна.

### УСЁ ПРА ВЯСЕЛЛІ

Для этнографаў, работнікаў культуры і ўсіх тых, хто цікавіцца беларускай народнай творчасцю, прызначаецца кніга „Вяселле", выпушчаная выдавецтвам „Навука і тэхніка".

Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР уключыў у яе найбольш поўныя і тыповыя апісанні традыцыйных вясельных абрадаў. Матэрыялы кнігі даюць шырокае ўяўленне аб беларускім вяселлі, яго характэрных рысах.

## ПНІ З ЧОРТАВАГА САДУ

Доўгія стагоддзі людзі бясконца дзіваваліся гэтым ні то каменным, ні то жалезным пням з рэшткамі карэнняў, што выворвалі ды выкопвалі на сваіх палетках і ў агародчыках. І, вядома, як кожную незвычайную рэч, ахутвалі іх мноствам здагадак, з якіх нараджаліся самыя несамавітыя легенды, то пра вечна растучыя з зямлі каменні, то пра пасаджаны самім чортам жалезны сад, які быў спалены датла боскай моцай і адно толькі абгарэлыя пні ў зямлі асталіся. Адны боязна абыходзілі бокам гэтыя таямнічыя творы, іншыя ж, вываліўшы такі „пянёчак" у дзесяць-пятнаццаць пудоў вагою, пулялі яго рознымі спосабамі на свой панадворак і разам з іншым каменнем клалі ў падмурак або ўмуроўвалі ў сценкі. Калі нехта іх папракаў, што з нячыстага будынак узводзяць, тады яны маўлялі: „Як гэта чартоўская штука, то мур мацнейшы будзе!.." Але ж урэшце рэшт у 1967 годзе незвычайнымі „пнямі" зацікавіліся археолагі і аказалася — гэта не што іншае як адпадкі пасля выплаўкі жалеза ў колішніх маленькіх доменных печах-дымарках! А каб было яшчэ больш дзіўна — гэтыя старажытныя „гуты" знаходзіліся зусім пад Варшавай: вакол Прушкова, Мілянуўка і Блоняў.

У выніку васьмігадовых навуковых даследаванняў устаноўлена, што ў часе ад I стагоддзя да нашай эры і да IV стагоддзя нашай эры іменна тут знаходзіўся аграмадны, другі з дагэтуль вядомых па велічыні ў „варварскай" Еўропе (гэта значыць, на тым абшары Еўропы, які не знаходзіўся тады ва ўладанні Рымскай імперыі) цэнтр выплаўкі жалеза, нешта накшталт нашага сённяшняга Шлёнска. Займаў ён аграмадны абшар каля 300 квадратных кіламетраў. На ім у маленькіх, да метра вышынёй і паўметра ў папярочніку печах з мясцовай балотнай руды і драўніннага вугалю за адны суткі выплаўлялася з кожнай каля двух пудоў жалеза. Калі выплаўка была закончана, печ разбівалі, дабывалі з яе жалеза, а глыба жужалю ў выглядзе дзівоснага „пня" аставалася назаўсёды ляжаць у неглыбокай ямцы пад былой дымаркай. Для наступнай выплаўкі ўзводзілася побач новая печ. І так з дня ў дзень на працягу звыш чатырох стагоддзяў. Побач з плавільнымі печамі знаходзіліся печы для выпальвання вапны — спецыяльнага дадатку пры плаўцы, былі таксама кузні. Жылі колішнія „гутнікі" тут жа, непадалёку ад сваіх варштатаў працы. Даследчыкі палічылі, што за час існавання гэтага старажытнага „прамысловага" жалезаплавільнага і металаапрацоўчага цэнтра ў ім было праведзена сама меней 150 тысяч плавак, якія далі разам каля 4 з палавінай мільёнаў кілаграмаў жалеза! Яно ў асноўным ішло на выраб зброі: вастрыёў коп'яў і стрэлаў, мячоў, нажоў, шчытоў і г.д., а таксама ўсялякіх гаспадарчых прыладаў — сярпоў, нажоў, ножк-

(Працяг на стар. 5)

## Да сустрэчы ў новым годзе!

**У наступным тыдні „Ніва" не выйдзе (сённяшні нумар з двайною датай). Сустрэнемся ўжо ў новым годзе. У першым жа тыдні 1979 г., апрача традыцыйнага календара, асабліва прапануем вашай увазе ўспаміны Ніны Мушынскай „Заручаныя з песняй" і дакументальную аповесць Славаміра Арлоўскага аб адной з найвялікшых сенсацый другой сусветнай вайны — загадкавым лёсе славутага Янтарнага пакоя.**

**З наступаючым Новым годам, дарагія чытачы!**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 23 XII** — 6.00 TTR. Matematyka. 6.30 TTR. Wskazówki metodyczne. 9.00 Dwanaście miesięcy — radziecki film dla dzieci. 15.30 Rodzina Leśniewskich — program dla dzieci. 16.00 Dziennik. 16.10 Dzień dobry, tu telewizja! 16.30 Magazyn motoryzacyjny. 16.55 Robinson Crusoe — meksykański film przyrodniczy. 18.40 Hej kolęda, kolęda — widowisko muzyczne. 19.00 Wieczorynka: Sprzedawca snów. 19.30 Wieczór z Dziennikiem. 20.30 Paweł i Gaweł — komedia polska. 22.00 Kolędy. 22.30 Spotkanie z zespołem „Dwa + Jeden". 23.00 Kino nocne: Jeźdźcy — amerykański film przygodowy.

**Niedziela 24 XII** — 7.45 Nowoczesność w domu i zagrodzie. 8.10 Emerytury dla rolników — poradnia. 8.20 Studio sport. 8.55 Program dnia. 9.00 Kapitan Nemo — cz. I filmu przygodowego. 10.20 Antena. 10.50 Wielkie rzeki świata: Nil — francuski serial dok. 11.55 Między nami jaskiniowcami — serial animowany prod. USA. 12.50 Julie Andrews w świątecznym programie — film angielski. 13.40 W Starym Kinie: Gorączka — dramat francuski. 15.25 Losowanie Dużego Lotka. 15.45 Barry Conners: Roxy — cz. I widowiska. 16.40 Studio Sport. 17.30 Teatr Małych Form. J. Lechoń: Kwiat pomarańczowy i Jarzębina. 18.30 Pastorałki. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Wieczór z Dziennikiem. 20.30 Układ krążenia — odc. V serialu TP. 22.00 Roxy — cz. II widowiska. 23.00 Kino nocne: Samuraj — francuski film sensacyjno-gangsterski.

**Poniedziałek 25 XII** — 9.00 Kapitan Nemo — odc. II filmu fab. 10.10 Biurowy romans — cz. I komedii prod. radz. 11.35 Spotkanie z Ewą Bandrowską-Turską — recital muzyczny. 12.15 TYLKO W NIEDZIELĘ. — 12.20 Aukcje szopek krakowskich. 12.35 Zaślubiny różnych narodów — odc. I. 13.00 Ja, Napoleon. 13.40 Zakochany D'Artagnan — odc. przygodowego serialu franc. 14.30 Świąteczna wizyta. 14.35 Gdy dwóch robi to samo — zabawy z udz. Ewy Wiśniewskiej i Magdy Zawadzkiej. 15.00 Dziewczynka z zapałkami — program rozrywkowy z udz. M. Rodowicz. 15.30 Jarosław Iwaszkiewicz — film. dok. 16.30 Świąteczna wizyta. 16.35 Lady Hamillton — melodramat angielski. 18.35 Konie — film dok. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik Wieczorny. 20.30 Teatr TV. A. Fredro „Mąż i żona". 22.00 Kabaret Starszych Panów. 22.40 Świąteczna wizyta. 22.45 Mąż opatrznościowy — żart teatralny. 23.00 Kino Nocne. Burzliwe lato — dramat sensacyjny.

**Wtorek 26 XII** — 9.00 Kapitan Nemo — cz. III filmu przygodowego. 10.15 Zwierzęta — film dok. franc. 11.45 Dawne dobre czasy — cz. I programu estradowego prod. angielskiej. 12.30 Romans biurowy — cz. II komedii radzieckiej. 13.35 Klub Sześciu Kontynentów: Wielka trójka. 14.25 Gram dla — teleturniej. 15.15 W Starym Kinie: Gorączka — dramat francuski. 16.55 Tele-Echo. 18.00 Studio sport: Mistrzostwa piruetów. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Wieczór z Dziennikiem. 20.30 Mania wielkości — komedia kostiumowa z Louis de Funesem. 22.20 Mała antologia kabaretu — odc. VI.

**Środa 27 XII** — 9.00 Syrenka i książę — fab. film. 12.45 TTR. Chemia. 13.25 TTR. Biologia. 15.30 NURT — nauczanie początkowe. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dzień dobry, tu telewizja. 16.50 Pan Półka i spółka. 17.15 Losowanie Małego Lotka. 17.35 Zagrożenie nuklearne — film dok. 18.00 Spoza gór i rzek. 18.30 Między nami jaskiniowcami — serial animowany. 19.00 Dobranoc: Jak Rumcajs zmierzył się z młynarzem. 19.10 Siódemka. 19.30 Wieczór z Dziennikiem. 20.30 Kino Interesujących Filmów. Oni walczyli za ojczyznę — fab. film prod. radz. 23.15. Dziennik.

**Czwartek 28 XII** — 6.00 TTR. Chemia. 6.30 TTR. Biologia. 13.25 TTR. Hodowla zwierząt. 14.00 TTR. Mechanizacja rolnictwa. 15.30 Decyzje piętnastolatków. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dzień dobry, tu telewizja. 16.50 Czwartek TDC. 18.20 Reportaż wojskowy. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc: Wiewiórka Flic. 19.10 Siódemka. 19.30 Wieczór z Dziennikiem. 20.30 Teatr Sensacji. Pamela — odc. I. 21.45 Pegaz. 22.30 Potyczki ze sportem. 23.00 Dziennik.

**Piątek 29 XII** — 6.00 TTR. Hodowla zwierząt. 6.30 TTR. Mechanizacja rolnictwa. 12.45 Matematyka. 13.25 TTR. Fizyka. 15.30 NURT — pedagogika. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dzień dobry, tu telewizja. 16.50 Piątek z Pankracym. 17.15 Szuflada — kustosz Tadeusz Sławski. 17.35 Stawka — teleturniej. 18.00 Cios — film fab. TV ang. 18.50 Wystąpienie ambasadora Kuby w PRL. 19.00 Dobranoc: Lis i Sroka. 19.10 Siódemka. 19.30 Wieczór z Dziennikiem. 20.30 Teatr Sensacji. Pamela — cz. II. 21.40 Koncert WOSPR. 22.10 Dziennik. 22.25 Proscenium.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

Беларуская радыёперадача: субота, 12.05 — 12.25 (UKF).

 

З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ. СТАДЫІ Ў ЖЫЦЦІ ЧАЛАВЕКА.

# Розгляды і запоіны

Калі сват сваімі ўзнёсла-пахвальнымі мовамі дабіўся згоды на выданне дзяўчыны замуж за свайго „падапечнага“, наступаў час на знаёмства бацькоў маладых. Трэба аднак тут сказаць аб тым, што паспяховасць сватоў не заўсёды вяла да вяселля. Да шлюбу яшчэ далёкая дарога, яшчэ многа этапаў і ўсё яшчэ магло рассыпацца. То бацькам хлопца магла не спадабацца гаспадарка дзяўчыны, то бацькам дзяўчыны — гаспадарка хлопца, то пасаг усё мог папсуць, то людзі плёткамі маглі напсуціць. Ідзем за этапамі вяселля.

Знаёмства бацькоў распачыналася ад „розглядаў“. Ужо само слова гаворыць, што тут нешта разглядалі, ды дакладна. Так яшчэ ў час сватоў, малады і сват дамаўляліся з бацькамі дзяўчыны адносна іхняга прыезду, каб паглядзець гаспадарку хлопца. Калі дзяўчына была сіратой, дык ехалі або хрысьціоныя бацькі або нехта са сваякоў. Ехалі з той мэтай, каб паглядзець матэрыяльныя ўмовы будучага зяця. Дзяўчына ў розгляды наогул не ездзіла, хаця выпадкі такія былі, ды з цягам часу штораз часцейшыя. Пакуль хатнія жанчыны рыхтавалі на стол, гаспадар — бацька маладога вёў прыехаўшых мужчын паказваць гаспадарку. Аглядалі ўсё: і жывёлу, і будынкі, распытвалі пра зямлю. Маці дзяўчыны ў той час або сядзела ў хаце і гутарыла з гаспадыняю, або таксама ішла аглядаць гаспадарку. Калі ў дамоўлены тэрмін у розгляды не прыязджалі, абазначала гэта, што да вяселля не дойдзе. Паспяховасць розглядаў вяла да наступнага этапу — запоін, якія інакш называюць „дагаворамі“ або „ладамі“. Адбываліся яны ў доме дзяўчыны і былі нечым завяршаючым. Як ужо гаворыць сама назва, дахадзіла тут да згоды адносна вяселля. Уладжвалі справы пасагу і вясельных выдаткаў.

Як сваты ці розгляды, так і запоіны, нагадвалі сабой торг. Уся размова была вакол пасагу, вясельных коштаў, справункаў. Матэрыяльны бок адыгрываў вялікую ролю. У часе запоін маці хлопца пільна, хаця сакрэтна, аглядала хату, пасаг, які дзяўчына прынясе з сабой. Вельмі добра, калі дзяўчына мела многа плахтаў, дываноў, пасцельнай бялізны. Выгляд хаты быў быццам адлюстраваннем працавітасці і зараднасці дзяўчыны. Наогул у хатах было чыста і прыбрана, бо прыезд маладога ці яго бацькоў не быў нечаканы. Стараліся, каб хата набрала як найбольш святочны выгляд. Апраналіся ў самую лепшую вопратку. Воз, у якім прыязджаў хлопец з бацькамі, быў чыста вымыты і засланы прыгожай узорыстай плахтай, коні вычышчаныя. Вельмі добра сведчыла аб бацьку дзяўчыны, калі даваў прымучаным дарогай коням есці. „Добры з ёго тэсць, бо і коні накорміті нэ забыв. А як дбае про жывёлу, то господар добры, значыт“, — гаварылі, вяртаючыся з запоін.

Стол накрывала маці з дачкою. Калі нейкая страва была смачная і хвалілі, дык маці гаварыла, што варыла або пякла дачка. Хаця дзяўчына была ў спектаклі запоін галоўнай актрысай, то ўдзелу ў дыскусіі не прымала. Адзінае, што магла, і то ў прысутнасці бацькоў, дык перакінуцца з маладым нявінным слоўцам.

Паспяховасць запоін была зыходным пунктам да абвяшчэння бацюшкам у царкве так званых „запаведзей“, якія былі апошнім этапам перад шлюбам. Падавалі на запаведзі тыдні тры перад шлюбам, каб бацюшка меў час на некалькіразовае паведамленне аб гэтым сваім парафіянам. Рабілася гэта з той мэтай, каб пераканацца, ці ніхто не будзе супраціўляцца гэтаму вяселлю. За тэтым было і крыху небяспекі. Не ўсе людзі падыходзілі добразычліва. Былі і такія, якія проста праз нейкую зайздрасць стараліся перашкодзіць у вяселлі і пачыналі пускаць розныя дурныя плёткі. То дашукоўваліся ў сем'ях маладых — псіхічна хворых, то разгортвалі нейкія здарэнні, то спасыляліся на шкодніцкую магію.

Працяг на стар. 4



ФОТА-РЭТРА

*Мельхіёр Ванькові ч — з цыкла „Крэсы“.*

На культурнай ніве

# Напрыклад, у Саколі

Адным з найлепш дзейнічаючых клубаў „Рух“ на Беласточчыне з'яўляецца клуб у пушчанскай вёсцы Саколе ў Міхалоўскай гміне. (Паўз гэтую вёску пралягла чыгунка, крыху далей знаходзіцца шаша з Беластока ў Міхалова, а навокал зялёнае мора дрэў Кнышынскай пушчы). Пражывае тут каля трохсот жыхароў.

У Саколі актыўна дзейнічае 33-асабовая маладзёжная арганізацыя ЗСМП. Моладзь — сапраўдны гаспадар клуба прэсы і кніжкі. Для яе ён з'яўляецца другім домам. Тут дзяўчаты і юнакі праводзяць многа часу. Калі трэба, самі рамантуюць столікі і дзверы, малююць столь або сцены. У гэтым культурным цэнтры вельмі прыемна і ўтульна. Сцены клуба ўпрыгожваюць актуальныя сценгазеты, кветкі, здобленыя кінкеты, на вокнах каляровыя заслоны. Большасць клубнага абсталявання гэта ўзнагароды за ўдзел у конкурсах і за грошы, зарobленыя ў лесе.

У клубе даволі часта адбываюцца сустрэчы з цікавымі людзьмі, лекцыі і даклады ў рамках ТВП, дыскусіі. З хронікі можна вычытаць, што ў Саколі выступаў беластоцкі тэатр, квартэт „Бэльтона“, Ганка Бяліцкая і Станіслаў Мікульскі.

Саколеўскі тэатральны калектыў выступаў не толькі ў сябе, але і ў Беластоку, Міхалове, Гарадку, Клепачах. У ім свой талент, свае тэатральныя пачуцці праяўляюць Анна Антончык, Юры Яроцкі, Ян Каспяровіч, Эва Паплаўская, Анна Дзмітрук, Славамір Амброжэй, Ян Рошка, Багдан Паплаўскі і Міраслаў Казлоўскі. Маладыя самадзейнікі ставілі „Канапельку“ Эдварда Рэдлінскага, а таксама шмат розных п'ес. Яны таксама арганізавалі клуб любіцеляў тэатра. За выдатныя поспехі ў папулярызацыі тэатральнага мастацтва гэты клуб быў узнагароджаны дыпломам Міністра культуры і мастацтва. Дружная моладзь з Саколя ўмела карыстае з тэлевізійных перадач. Пасля цікавых тэатральных спектакляў або кінафільмаў яна арганізуе дыскусійныя вечарыны.

— Абсталявалі мы дыскатэку на ўзор гарадскіх, — кажа старшыня гуртка ЗСМП, Анджэй Каспяровіч. Ілюмінацыйнае абсталяванне зрабіў наш энтузіяст грамадскай работы Юзэф Грыка. Ён майструе яшчэ кансалету. Танцавальныя вечарыны спалучаем з конкурсамі і мастацкай праграмай. Штогод арганізуем навагоднія балі, „анджэйкавыя“ варожбы, развітальныя вечарыны з юнакамі, якія ідуць у армію. Зімою прыязджае да нас на кулігі па пушчы моладзь з беластоцкіх прадпрыемстваў.

Не злічыць усіх дасягненняў гэтага сімпатычнага клуба. Кожны год займае ён адно з трох месц у ваяводскім конкурсе на найлепшы вясковы клуб. (За 1977 год клуб прэсы і кніжкі „Рух“ у Саколі заняў другое месца і быў узнагароджаны крыштальным кубкам і грашовай узнагародай — 10 тысяч злотых). За актыўны ўдзел у конкурсе „Тэрэн“ прыпала ўзнагарода адна з большых, якія атрымоўвалі дагэтуль — дыплом Міністра культуры і мастацтва і 100 тысяч злотых. За гэтую суму грошай купяць новую мэблю і навейшае абсталяванне дыскатэкі ды апарат для дэманстрацыі кінафільмаў.

Сёлета на панадворку саколеўскага клуба моладзь пасадзіла ружы і вакол клумбаў невысокую дэкаратыўную агароджу.

Многа яшчэ цікавых задум у саколеўскай моладзі. Таму да апісання іх яшчэ вернемся ў наступным матэрыяле.

**Я. Целушэцкі**

Наша галерэя



*А. Вэльс „Хата зімою“.*

ЯКІЯ ПАВІННЫ БЫЦЬ БЕЛАРУСКІЯ РАДЫЁПЕРАДАЧЫ?

# ХАЛАСТЫ ЗАРАД

Далучаючыся да дыскусіі адносна перадач па радыё на беларускай мове, мушу падкрэсліць: каму гэта перадача запраграмавана? А гадзіне $12^{05}$. Хіба тым беларусам, якія адышлі на той свет, бо толькі яны ў гэтым часе могуць слухаць перадачы, бо маюць у сваім распараджэнні кругласутачны вольны час — але ніколі жывыя і занятыя штодзённай працай людзі.

Перадаванне па хвалях УКФ — таксама халасты зарад. Дзеля тых прычын, што не кожны радыёслухач мае прыёмнік УКФ. Прапаную вярнуцца да сярэдніх хваляў, як практыкавалася раней. Прапаную таксама звесці змену часу перадач з $12^{05}$ на 7 гадз. або 18 гадз. І перадачу весці не 15 хвілін, а 30 хвілін, і не адзін раз у тыдзень, а тры разы.

Адносна зместу перадач, цалкам згаджаюся з „Ананімам“. Ад сябе мушу падкрэсліць: беларускія радыёперадачы павінны быць змястоўныя, цікавыя, і не дубляваныя, ды закранаць пытанні з усяго свету.

**Кастусь Сідаровіч**

# ПЕСНІ

„Ананім“ паставіў дзве справы: радыёперадачы аб сельскай гаспадарцы на беларускай мове і беларускія песні.

Адносна радыёперадач аб сельскай гаспадарцы. Яны вядуцца штодзённа на польскай мове. І гэта добра. Я як настаўнік беларускай мовы сцвярджаю, што так павінна быць. Бо калі мы іх будзем рабіць і на беларускай мове, то слухачоў будзе вельмі мала. Адна сельскагаспадарчая тэрміналогія — колькі клопату! У практычным жыцці ўсе мы карыстаемся польскімі тэрмінамі.

Іншая справа — песні. І тое, што аб іх напісаў „Ананім“ — праўдзівая праўда. Калісь мы слухалі іх раніцамі праз точкі. Як было прыемна! Сядзіш, слухаеш і не наслухаешся. Яны ўсім падабаліся. Чаму б не вярнуцца да добрай традыцыі? Прапаную ў панядзелкі зранку да 8-й гадзіны перадаваць беларускія песні.

**М. Матвеюк**

# Беларускія кнігі

У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку, вул. Кілінскага 10, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

**Хведаровіч Мікола,** Памятныя сустрэчы, 1977, стар. 208, цана 10 зл.

Кніга ўспамінаў. Прадстаўлены тут постаці Я. Купалы, Я. Коласа, Ц. Гартнага, З. Бядулі, М. Чарота, А. Александровіча, П. Труса і іншых. Напісана вельмі цёпла, лірычна.

**Краўчанка Усевалад,** Таямніца вугла альфа, 1973, стар. 224, цана 10 зл. 80 гр.

Зборнік апавяданняў і аповесць з жыцця дзяцей і юнацтва ў Савецкай Беларусі.

Беларуская літаратура. Выпуск пяты. 1977, стар. 168, цана 28 зл.

У гэтым выпуску перыядычнага выдання змешчаны артыкулы, між іншым: С. А. Падокшына „Роля антычных традыцый у развіцці культуры і грамадскай думкі на Беларусі ў XVI-XVII стагоддзях“, М. М. Грынчыка „Зараджэнне і развіццё беларускай сілабічнай паэзіі“, А. Л. Верабей „М. Танк — перакладчык паэмы Ю. Славацкага „У Швейцарыі“, У. В. Казлова „У пошуках народных ідэалаў“ (на аснове аналізу беларускіх народных казак), і інш. Сярод публікацый — „Драматычная паэма Яна Чачота“, У. М. Казберука, невядомыя беларуска-украінскія вершы XVII стагоддзя і інш.

Беларуская акварэль, 1977, стар. 180, цана 118 зл.

У гэтым элегантным і выдадзеным з высокай тэхнічнай культурай альбоме знаходзяцца 123 каляровыя рэпрадукцыі прац самых відных беларускіх савецкіх мастакоў. А. Бяспалы ўзбагаціў выданне артыкулам пра беларускую акварэль, яе гісторыю, плыні, творчыя дасягненні.

Кнігарня ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні накіроўвайце па адрасу: „Dom Książki“ Białystok, ul. Kilińskiego 10.

(мг)



 

